# Беларускі Звон

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ.

| Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Біскупская вул. **12.** Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён. | Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аўтора і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | **Цана кожнага нумару 10 м.** Падпіска на 3 месяцы каштуе 150 м. (з даст. да хаты). Цана абвестак: 50 м. за радок пэтыту (на апошн. стр.). |
|---|---|---|

Год I. Вільня. Пятніца, 2-га верасьня 1921 г. № 10.

## Грамадзяне! Спаўняйце сваю павіннасьць, запісвайцеся ў „Т-ва Беларускае Школы!“

### Запісь прыймаецца ў „Беларускай Кнігарні“ (Завальная вул., № 7).

## Насьпеўшая рэч.

Рада Беларускай Нацыянальнай Сувязі склікае на 25-е гэтага верасьня ў Празе (Чэхаславакія) беларускую нацыянальна-палітычную нараду.

Справа гэткае нарады, справа зьезду прадстаўнікоў розных беларускіх палітычных кірункаў даўно ўжо насьпела і ініцыятыву ў гэтай справе Рады Нацыянальнай Сувязі застаецца толькі шчыра прывітаць.

Бо за апошнія часы розныя самыя чорныя хмары на нашым палітычным небасхіле так зацямнілі справу нацыянальна-дзяржаўнага нашага руху, так парастрасалі кірункі беларускай палітычнай думкі, што падбіць агул усяму, што дзеецца, можна толькі, *згрупаваўшы ўсе кірункі на якім-небудзь адзіным нацыянальным сходзе.*

Рада Нацыянальнай Сувязі гэта зразумела раней за іншыя арганізацыі і пастанавіла заклікаць на конфэрэнцыю ўсе беларускія партыі і арганізацыі, якія згодны з тым, што наша расьцярушанасьць ня можа больш паглыбляцца, што ня можна нам далей распаўзацца ўва ўсе бакі.

Нажаль, не апублікована яшчэ хоць-бы самая кароткая праграма маючай быць на чужыне, на зямлі роднага нам па крыві чэскага народу, насьпеўшае нацыянальнае нарады.

Арганізатары нарады павінны аб гэтай праграме падумаць і, пашырыўшы сваю ініцыятыву, павінны як найхутчэй апублікаваць тыя пункты праграмы для нарады, якія ў іх думцы напэўна ёсьць.

Бо нарада ня можа быць ні адложана на далейшы за вызначаны тэрмін, ні зацягнена на доўгі час пасьля таго, як зьбярэцца.

А дзеля таго, каб яна сабралася і адбылася як найхутчэй трэба склікаць яе арганізованна, трэба даць магчымасьць нацыянальным групіроўкам на мясцох абдумаць і выпрацаваць свае адносіны да таго, ці іншага пункту праграмы, каб даць сваім дэлегатам у Прагу пэўныя наказы.

Аднак, калі-б гэтая патрэбная праграмма й не патрапіла прыйсьці ў час да кожнае з нашых нацыянальных арганізацыяў і групаў, дык і то нам здаецца, што ніхто, лічачы сябе сапраўды беларусам, ня мае моральнага права адмовіцца ад паданьня свайго голасу ў даны гістарычны мамэнт.

Хочацца верыць, што мы яшчэ ня зусім, як кажуць, расклеіліся, што агульнаю моваю могуць загаварыць розныя нашы палітычныя групы па шмат якіх кардынальных для беларускае нацыянальнае справы пытаньнях.

Фактычнае і юрыдычнае палажэньне нашага сярмяжнага Народу трудна назваць інакай, як нацыянальным бясправуем, сучаснае становішча заселенай беларусамі зямлі нельга лічыць інакш, як трагічным.

Польшча, якая яшчэ нядаўна ўваскросла да жыцьця з падобнага трагічнага становішча падзелаў, ужо патрапіла заключыць у Рызе з Савецкаю Расеяй (у тым ліку і з куртатаю Савецкаю Беларускаю Рэспублікаю), загарнула не адзін мільён беларусаў у свае межы і, тым чачам, маўчыць аб праўным палажэньні іх, калі ня лічыць глухога пункту прынятай Дзяржаўным Соймам Конституцыі аб правох... нацыянальных меншасьцяў.

Навет аб рэалізацыі гэтага пункту нешта нічога ня чуваць, як ні стараюцца выведаць і падхапіць гэта некаторыя беларускія групы, накшталт беларусаў з тутэйшае „Краёвае Сувязі“.

Беларусь Савецкая адгароджана ад нас гранічнаю сьцяною і за апошні час аб яе жыцьці надта мала чуваць. Гульня беларусаў-бальшавікоў у рэспубліку на маскоўскі капыл з пяцёх паветаў Меншчыны — просты зьдзек над правам Беларускага Народу на сваё поўнае дзяржаўна-нацыянальнае жыцьцё.

Лёс Віленшчыны мае быць вырашаны бяз нашага голасу, хаця сам палкоўнік Шардыны заяўляе дэлегацыям, што ня гледзячы на досіць выразнае ўражаньне польскае большасьці ў самой Вільні, зусім недалёка, вакол яе жыве народ, які гаворыць ня польскаю, а беларускаю моваю.

Адным словам, у справе нашай усюды блутаніна і выясьніць гэту справу можна толькі, выцягнуўшы яе ў поўнай меры на эўропэйскі форум.

Калі гэтае заданьне Пражскай нарадзе ўдасца, дык значэньне яе будзе павялічана далейшым ходам падзеяў.

А каб удалася сама нарада, дык абавязкам кожнага сьвядомага беларуса павінна быць актыўнае падтрыманьне ідэі яе скліканьня, ня гледзячы ні на якія праграмныя неясьнасьці.

## Сумныя ўспаміны.

Будучы жаўнерам быўшае расейскае арміі, я адмераў пехатою адступленьне ад Вільні да Менску, бачачы па дарозе жудасны абраз ад'езду на ўсход нашых сялян-уцекачоў, якія зьмяшаліся па дарозе разам з абозамі і аддзеламі пабітае арміі.

Нялічаныя будкі на вазох быццам перавярнулі няшчасны сялянскі народ наш у вялізную масу цыганоў.

Мільённая грамада жыхароў Гарадзеншчыны і часьці Віленшчыны рушыла ў неспадзяваную вандроўку, едучы няведама куды, няведама чаго, у той бок, у які пёрлася расейскае войска, змушанае да адступленьня.

У палатняную будку на свой маленькі воз селянін ня мог упакаваць усяго свайго скарбу і вялізны лік сялянскай жывёлы: коняў, быдла, авечак, сьвіней быў закуплены „за гнілую рыбу“, гэта значыць, забясцэн аслаўленымі ваеннымі інтэндантамі і, зьведзены ў вялікія гурты - стады, пагнаны быў гэтак сама, як і гаспадары, на ўсход.

Роўнадушнае да усяго, счарсьцьвелае сэрца жаўнера, не магло спакойна біцца ў грудзёх, калі вочы мае трапляли на дробныя, але моцна засеўшыя ў памяці, здарэньні.

Вось, гоняць жаўнеры можа з тысячу авечак. Адна бедная авечка тут-жа на дарозе прывяла ягня. Бедная, нявінная жывёліна! Яна ня можа адразу ачухацца і стаць на ногі, каб валачы свой хворы арганізм за стадаю. Яна ня хоча кінуць сваё маленькае, толькі што народжанае дзіця—ягнятка... Грубы жаўнер б'е яе бізуном, сыплючы на яе праклёнствы... У справу ўмешваюцца больш жаласьлівыя натуры жаўнераў і нявольны «авечы кат» кідае хварую авечку на дарозе, гонячы рэшту жывёлы далей.

Доўга чуецца жаласнае блеяньне авечкі сярод грому адступленьня ў непагодны васеньні вечар.

Хто ведае? Ці не паўтараліся падобныя да гэтага здарэньні на далейшым шляху?

Хто можа запэўніць, што не нараджаліся на сьвет, накшталт гэтага ягняці, сялянскія дзеці ў цесных будах вазоў?..

Каля аднае вёскі, адзін малады ўцякач, гарадзенец, схапіў пару снапкоў аўса, што стаяў у дзесятках на полі. Гаспадар, уласнасьцю якога быў авёс, кінуўся да ўцекача біцца.

— Чаго лезеш,—адказаў той: — маё ўжо ўсё прапала...

Словы былі сказаны з нейкаю нялюдзкаю злосьцю.

Пачалася калатня. Конна падляцеў наш афіцэр і зьліквідаваў справу тым, што заспакоіў гаспадара, якому належаў авёс, а ўцекачу параіў ехаць далей.

2-га верасьня 1915 г. я пакінуў Вільню. Праз два-тры дні, я спаткаў па дарозе да Менску шмат сваіх землякоў—уцекачоў.

Ой, як адмяніліся няшчасныя, бедныя людзі!

Нязьмернае гора і нібы страх перад будучынай напісаны былі на твары іх.

Я даведаўся, што й сяляне тэй вёскі, дзе я радзіўся, а можа й мае бацькі недзе ў гэтай масе няшчасных уцякаюць, кінуўшы роднае гняздо.

Я й хацеў і не хацеў спаткацца з з бацькамі у гэткім палажэньні.

Аж да самай Ратамкі (16 вёрст ад Менску) я не спаткаў іх.

А ў гэтай самай Ратамцы быў ужо арганізованы вялізарны пункт, які карміў нялічаную масу ўцекачоў. Навокал па прыгожым ляску ратамскага лецішча (дача), па палёх і навет мокрых сенажацях відаць было бела-шэрыя будкі на возіках уцекачоў. Шпаркая горадзенская гутарка перамешвалася з расьцяжнаю віленскай гаворкаю ў «хвасьце» каля харчовага пункту, што быў недалёка ад вакзалу.

У Ратамцы я затрыманы быў службаю і, праз два-тры тыдні, на месцы пастою ўцекачоў, пачалі паказвацца сьвежыя, убогія магільныя крыжыкі...

Сьмерць ужо брала свае ахвяры з вялікага ліку няшчасных, хаця харчовы пункт працаваў, як мог.

Хутка чуваць было расказы пра самыя кашмарныя здарэньні сярод уцекачоў.

Казалі тады, што першыя хвалі іх ужо дакаціліся да Дняпра.

Расказавалі, што адна маладзіца, прывязаўшы да сябе траіх маленечкіх дзетак сваіх, кінулася з мосту ў Дняпро...

І тады магло быць гэтак.

Хаця тады нехта ўсё-ж такі рупіўся аб тым, каб уцекачы маглі знаходзіць на сваім сумным шляху харчовыя пункты.

А хто раскажа нам аб тым, як яны вяртаюцца цяпер назад?

Хто парупіўся аб іх сягоньня на іх шмат горшым паваротным шляху?

Ці-ж нялюдзкія жахі вайны забілі ў людзях пачуцьцё простай гуманнасьці настолькі, што нячуванае гора нявінных ахвяраў гэтае вайны можа застацца бяз увагі?

Не! Гэтага не павінна быць. У гэта ня хочацца верыць.

**Краўцоў Макар.**

# Вольная трыбуна.

## На якіх варунках была-б магчыма аўтаномія ці аўтокефалія праваслаўнай беларускай царквы?

*(К 3-м гадом абвяшчэньня беларускай незалежнасьці).*

Агульная гісторыя царквы паказавае нам, што незалежнасьць царкоўная заўсёды йшла сьледам за незалежнасьцю палітычнай.

Адгэтуль, разам з пытаньнем аб палітычнай незалежнасьці Беларусі можа мець вялікую цікаўнасьць і другое пытаньне,— аб незалежнасьці беларускай царквы.

Ад такой, ці іншай разьвязкі гэтага пытаньня будуць залежаць і палітычныя ўплывы на Беларусі.

У нашай гісторыі пытаньне гэтае падымалася ўжо не адзін раз — дзеля палітычных прычын, каб лепей вызваліцца з-пад маскоўскіх уплываў, і дзеля прычын рэлігійных, каб лепей пашыралася вунія. Але ніколі яно не падымалася ў залежнасьці ад аднэй Беларусі, а заўсёды чаплялі яе разам з Літвою, Украінаю, Польшчаю, бо ў той час усе гэтыя землі былі пад адным каралём.

Цяпер, калі тры гады ўжо мінула з часу абвешчаньня Беларусі незалежнай рэспублікаю, паўстае пытаньне таксама аб аўтаномнай ці аўтокефальнай беларускай царкве.

Пры разьвязцы гэтага пытаньня, а тым болей пры яго спаўненьні ў жыцьці, трэба мець на думцы галоўным чынам тое, каб няпэўным кіраўніцтвам справы і ня згубіць усяе справы і не зрабіць, замест гэтак пажаданага царкоўнага міру, яшчэ якойсь нязгоды: досыць і так дадзела ў нашым краі бесканечная рэлігійная вайна. І вось, дзеля таго, трэба ведаць, што галоўным варункам адбудовы царкоўнага жыцьця праваслаўных беларусаў павінна быць яго канонічнасьць з царкоўна-праваслаўнага боку.

Што-ж трэба дзеля гэтай канонічнасьці?

Патрэбны дзьве згоды: 1) згода на аўтаномнасьць ці аўтокефальнасьць усяе Беларускае царквы, г.-ё. такая пастанова ўсіх праваслаўных беларусаў, усяго народу праз сваіх духоўных кіраўнікоў, пачынаючы з архірэяў і сьвецкіх прадстаўнікоў, якія водле законаў праваслаўнае царквы маюць права быць сябрамі, так званых, памесных сабораў. 2) Згода на гэта той царквы, ад якой дагэтуль даная царква залежала.

Ведаючы добра, як лёгка дасталася другая згода на маскоўскім саборы для украінскай царквы, дзе ніхто не прашкаджаў яе аўтаномнасьці, мы можам з поўным спадзяваньнем думаць, што з гэтага боку тое самае пытаньне і для беларускае царквы прайшло-б таксама лёгка, без перашкод.

Трудней магло-б яно прайці з першага боку.

Тут трэба, каб увесь праваслаўны народ, на чале з духавенствам стаяў за гэтую аўтаномнасьць, ці аўтокефальнасьць, наагул—незалежнасьць, беларускае царквы ад усерасейскай.

Тут патрэбна поўная надзея, што гэтая беларуская царква ў гэтым краі будзе ўзапраўды мець усе тыя правы, якія мае і царква каталіцкая і другія. Па большасьці праваслаўнага насяленьня гэтыя правы ёй належалі-б перш за ўсе другія рэлігіі, а на практыцы, пакуль што, мы відзім, што пачынаючы з нямецкай окупацыі сучаснае становішча беларускае царквы такое, якое саўсім прыводзіць ёй на памяць XVII і XVIII вякі. Ў праваслаўных адбіраюцца цэрквы. Ламаюць там іканастасы, наругаюцца над іх сьвятынямі, а тыя сьвятыні, якія пачытаюцца і ў каталіцкай царкве, адбіраюцца; выганяюць з хат духавенства з дзяцьмі, адбіраюць у іх зямлю і г. д. Ня ў доўгім часе мы, можа быць, на старонках „Бел. Звону“, зможам даць больш падробны агляд сучаснага становішча праваслаўнае царквы на Беларусі, і тады яго чытальнікі пабачаць агульны абраз, які па нетолеранцыі і дзікім фанатызьме напомніць ім сярэднія вякі. Усе падобныя прыклады прынукаюць праваслаўнае насяленьне, пакрыўджанае ў самых сьвятых сваіх пачуцьцях, зачыніцца ў самым сабе і чакаць „якіх-небудзь перамен“; не спадзяючыся на тое, што яго з гэтага становішча вывядзе якая-небудзь тутэйшая ўлада. Гэтакі парадак ёсьць самым небясьпечным для пашырэньня і ўва ўсім краі ідэі незалежнасьці Беларусі і яе царквы.

Мы ведаем, што, з другога боку, і каталіцкая царква таксама магла-б паказаць на ня дужа даўнішнія прыклады рэлігійнага ўціску яе ў гэтым краі ад расейскага ўраду, які ўціск можа больш усяго і быў прычынай яе кірунку да Польшчы, які ў XVII—XVIII в.в. уціск праваслаўных пакіраваў іх думкі да Расеі.

Адсюль здавалася-б толькі і можна-б зрабіць адзін лёгічны вывад: **толькі тады магчыма было-б і роўнапраўнае і незалежнае становішча на Беларусі ўсіх рэлігій і ўсіх царкваў, калі-б адбудавалася палітычная незалежнасьць Беларусі і ў ёй нацыянальная, свая, ўлада незалежная ні ад усходніх, ні ад заходніх уплываў.**

Так кажа нам лёгіка слоў, але людзкая псыхолёгія, настрашаная „лёгікай жыцьця“, часта кіруецца больш гэтай апошняй лёгікай, і з гэтым прыходзіцца лічыцца. Трэба, перш усяго, сказаць што усё-ж, як ні пажадана для многіх беларуская палітычная незалежнасьць, пакуль што яна маецца толькі на паперы ды ў сэрцы лепшых і шчырэйшых беларусаў, а рэальна яе яшчэ няма. Колькі было за гэты час у Вільні палітычных пераваротаў, але яшчэ ніводнага ня было на карысьць беларускай незалежнасьці і гэта, пэўне, памяншае ў некаторых веру ў тое, што гэтае жаданьне калі-небудзь адбудзецца ўзапраўды ці можа, калі і адбузецца, дык такі ня скора, што, як гаворыцца, „пакуль сонца ўзойдзе,—раса вочы выесьць“. Адгэтуль сьвяткаваньне мінулай вясною 3-х гадоў абвяшчэньня незалежнасьці беларускае, якое ускалыхнула троху гэту надзею, так прыхільна было сустрэчана праваслаўным духавенствам (? Рэд.) і можа б пры нейкай другой пастанове справы (аб чым у другі раз) сустрэчана было-б яшчэ гарачэй.

Другое, што можа яшчэ троху утрымавае некаторых — есьць няпоўная вера ў тое, што будучая ўлада Беларусі будзе ўзапраўды бяз уплыву з заходняга боку і што наагул яна будзе мець моц, каб утрымацца на гэтай няўплыўнасьці. Пытаньне ёсьць у тым, што вось і цяпер у тых зьдзеках, якія у гэты час чыняцца над праваслаўным народам і праваслаўнымі сьвятынямі вінавата ня столькі цяперашняя ўлада, колькі некаторыя часьці каталіцкага насяленьня на чале з некаторымі прадстаўнікамі каталіцкага духавенства. Улада тут можа і сама, хоць-бы і хацела, ня мае патрэбнай моцы, каб справіцца з такімі неўпару фанатычнымі элемэнтамі і асабліва ў гэты час, пакуль гэта ўлада не саўсім яшчэ украпілася. Ці справіцца-ж маладзейшая яшчэ беларуская улада, думае другі,— з тэй езуіцкай арганізацыяй, якую ужо зрабіла ў Вільні каталіцкая духавенства і якая тым выразьліва праявілася ў прашлагоднім галасаваньні ў Вільні, дзе бязумоўна ў 40.000 „польскіх“ галасоў было ня мала беларускіх-каталіцкіх. А на тое, каб гэта каталіцкая маса перакіравалася з польскага кірунку на беларускі надзеі мала; скарэй трэба баяцца, каб гэта арганізацыя і яе ўплыў не пашырыліся на вёскі дзе яшчэ, пакуль, крапчэй трымаецца і пакуль, дзякуй Богу, расьце беларускасьць.

Ці ўздолее-ж беларуская ўлада ратаваць беларускую праваслаўную царкву ад таго ўціску, тых крыўд і зьдзекаў якія творацца ёй збоку некаторых фанатычных каталіцкіх арганізацыяў. Мы ўжо не гаворым аб тым, што апрача таго могуць знайсьціся і такія думкі: „а што, як гэта беларуская ўлада ня толькі ня выратуе праваслаўнай царквы ад гэтакага ўціску, але і сама яшчэ балей укрыўдзіць яе? Скажам: адабрала ад праваслаўных некаторыя землі і дамы польская ўлада, а прыдзе улада беларуская і адніме апошнія. А што, як гэта беларуская незалежнасьць зробіцца такім самым палітычным мостам на захад, як прыкрай памяці для праваслаўных (і для лепшык каталікоў) рэлігійная вунія зрабілася рэлігійным мостам да каталіцтва (лацінства). А што, як гэта улада задумае завадзіць узноў гэту вунію?“

І вось тыя, хто можа-б шчырым беларускім сэрцам пайшлі-бы ў самыя гарачыя працаўнікі будаваньня беларускасьці і можа-б сярод беларускіх дзеячоў былі-б вельмі карыснымі працаўнікамі, замест таго сядзяць прытуліўшыся і як сказана, „чакаюць якойсь перамены“, а ў гэтым чаканьні думкі іх кіруюцца ў той бок, адкуль яны могуць спадзявацца найшпарчэйшае і крапчэйшае помачы, бо ўсё-ж для рэлігійнага чалавека, як ня дорага нацыянальнасьць,— рэлігія яшчэ даражэй.

З гэтага боку сучасны момэнт і становішча праваслаўнай беларускай царквы можа быць вельмі добра скарыстана сучасным беларускім урадам, і мы ведаем, што кожнае яго выступленьне за правы скрыўджанай беларускай царквы, за яе прадстаўнікоў пашырае, веру ў гэты ўрад і самую ідэю беларускай незалежнасьці.

Мы ведаем, што і ідэя аўтаномнасьці беларускай праваслаўнай царквы, так сама ёсьць і пашыраецца сярод праваслаўных кругоў, а таму яшчэ раз скажам, што пры разьвязцы гэтага пытаньня трэба мець галоўным у думцы тое, каб няпэўным кіраўніцтвам справы не папсаваць і гэтай справы і так пажаданага царкоўнага міру.

**В. Багдановіч.**

## Ад рэдакцыі.

Трымаючыся поўнай безстароннасьці ў рэлігійных справах, мы ня можам аднак запамінаць таго, што народ наш дзеліцца па рэлігіі на: каталікоў і праваслаўных; гэта, ведама што, не павінна перашкаджаць нам быць адным народам, бо нацыянальнасьць і рэлігія —гэта дзьве розныя рэчы, аб чым вядома кожнаму граматнаму чалавеку. Ў той час, як беларуская сьвядомасьць сярод каталіцкага духавенства зьяўляецца справаю

---

**Францішк Аляхновіч.**

# НЯСКОНЧАНАЯ ДРАМА

пьеса ў 4-х актах.

(Гл. № 9).

КОСТУСЬ. Хэ-хэ-хэ, Божа мой! Чаго вы ўсе ад мяне хочаце? Вось-жа аб тое й ідзе, што я ня маю веры ў карыснасьць гэтай работы. Мож-б я й хацеў мець гэтую веру, так як вы, але я яе ня маю. Дайце мне раней веру—вось што! Але кіньма лепш. Два дні назад я гутарыў аб гэтай справе з Васілём... І цяпер я пакідаю іхнюю кватэру—вось фінал гэтай гутаркі! Хэ-хэ!..

БАГДЗЕВІЧ. Ну, глупства! Васілёк—гарачы хлопец, палаяўся мусі трохі з вамі. Ня трэба на яго за гэта злавацца. Але дзе-ж ён? ня ведаеце, ці скора вернецца, бо маю да яго важную справу.

КОСТУСЬ. Ён хутка прыдзе са службы... А вы можа яшчэ нічога ня ведаеце? Ён дастаў пасаду ў хлебным бюро... А дзень перад тым спаліў усе свае рукапісы.

БАГДЗЕВІЧ. Што?! Спаліў! Чаму?!

КОСТУСЬ. Спаліў усё. Як гэта здарылася—ня ведаю, я пры гэтым ня быў... Два дні ўжо, як маўчыць і ні са мной, ні з жонкай сваей не гавора ні слова...

БАГДЗЕВІЧ. Усё спаліў!? Не разумею, што-ж гэта... Значыцца й сваю драму?

КОСТУСЬ. І драму.

БАГДЗЕВІЧ. Ах, вар'ят! вар'ят! Ён чытаў мне першы акт, такая арыгінальная рэч!.. Ну, я-ж яму за гэта задам фэфару! Ах, шалёны хлопец!.. (*разглядзіўшыся па хаце*). Ну, а дзе-ж іхняе дзіця? Ня відаць нешта...

КОСТУСЬ. Аддалі ў прытулак. А на другі дзень захварэла тамака. Жонка Васіля цяпер цалюсенькіе дні сядзіць у прытулку пры дзіцяці.

БАГДЗЕВІЧ. Эх, між намі кажучы, дык толькі лішніе клопаты зваліліся ім на галаву праз гэтае дзіцянё! Цяпер такіе цяжкіе часы, Васіль б'ецца як рыба аб лёд, каб сяк-так пракарміцца, а тут вось яшчэ: новая бяда!

КОСТУСЬ. Наагул усё іхняе жыцьцё склеілася: ня так, як трэба... (*чуваць за сцэнай крокі*). Ну, вось нехта йдзе, пэўне ён; трэба мне ўжо ехаць чэмаданчык у руку, гітару пад палу—і, значыцца, на новую кватэру!

БАГДЗЕВІЧ. Можа крыху ўстрымаецеся? Тое, што я зараз скажу, можа й вас, „бязьвернага“, крыху зацікавіць.

### Зьява 3.

*Тые-ж:*

ВАСІЛЬ (*увaходзіць пануры*).

ВАСІЛЬ (да Багдзевіча). А! вы тут? Добры дзень.

БАГДЗЕВІЧ. Добры дзень. Ну, як-жа ж жывецца на новай службе?

ВАСІЛЬ. А хай яна згарыць гэтая служба! Вы ведаеце, колькі я працую? Цалюсенькі дзень да восьмай гадзіны ўвечары! Вось цяпер прыбег на абед ды йзноў пайду назад. Гэта хіба сам чорт выдумаў, каб адабраць у чалавека рэшту духоўнай яснасьці, здольнасьці думаць палюдзку.

БАГДЗЕВІЧ. А гэта ўжо такая сыстэма, каб высмактаць у чалавека ўсю энэргію, ўсю магчымасьць протэсту і перарабіць яго ў бязвольную жывёлу... (*інш. тонам*). Ну, але, браток! трэба цябе вытармашыць за вушы: што-ж гэта ты зрабіў? ты спаліў усе свае рукапісы?

ВАСІЛЬ. Э! не ўспамінайце!

БАГДЗЕВІЧ (*перадразьнівае*). Не ўспамінайце!!.. Нябось, шкадуеш цяпер свайго шаленства!.. Ну, але ня спускай носа: бярыся ізноў за работу і хутчэй давай што-колечы ў газэту!

ВАСІЛЬ. Я сам ня ведаю, ці я вазьмуся калі за пяро...

БАГДЗЕВІЧ. Ну, гэта ты, браток, дарма.. Але нічога! Зараз інакш засьпяваеш, як скажу, чаго сюды прыйшоў. (*Выймае з кішані нейкую паперку*). Маеш, чытай.

ВАСІЛЬ (*перабягае вачыма паперку і гавора з вялікім дзівам*). Што гэта?! Не разумею... Няўжо-ж праўда!? Не! трудна верыцца! Гэта хіба мана!

БАГДЗЕВІЧ. Не, браток! — Прабраўся праз фронт Пышка,—ты яго мусі памятаеш?—і вось прывёз гэтую вестку: 18-га сьнежня 1917-га году ў Менску на Ўсебеларускім Зьездзе аб'яўлена незалежная Беларуская Рэспубліка. Разумееш ты вагу гэтага момэнту? — сабраліся гэтые нашые „простые“ людзі з усіх куткоў Беларусі—гэтые мужыкі ў сьвітках і салдаты ў шэрых шынэлях і голасна перад усім сьветам выказалі сваю волю!.. Ці мы, браток, калі адзінаццаць гадоў назад выпушчалі на Віленскай вуліцы першы нумар „Нашай Долі“, маглі спадзявацца, што кінутае намі зярнё ў гэтакім хуткім часе дасьць такі багаты ўсход?!

ВАСІЛЬ (*праз гэты час зірнуў далей у паперку і спалохаўся*). Што гэта?! Бальшавікі Зьезд разагналі? Як-жа ж гэта?!

БАГДЗЕВІЧ. Гэта нічога, браток! Не палохайся! Нічога.. Гэта глупства! Важна тое, што народ пасьля доўгага заняпаду, пасьля векавой маўчанкі, выявіў сваю волю. Падумай толькі: больш як паўтары тысячы дэлегатаў з розных беларускіх гарадоў, вёсак і мястэчак, ад розных беларускіх арганізацыяў, сказалі тое вялікае слова, аб якім дзесяць гадоў

не сягоньняшняга дня, сьвядомасьць гэта сярод духавенства праваслаўнага трапляецца толькі ў адзінковых выпадках. Сьвядомыя нацыянальна беларусы-сьвяшчэньнікі і рэлігійныя міране не складаюць дасюль ніякае нацыянальнае грамадкі, ня маюць свайго друкованага беларускага органу і, праз гэта, мы ня можам адмовіцца даць паважанаму аўтору магчымасьць выказацца на шпальтах нашай часопісі па пытаньню аб аўтаноміі праваслаўнай беларускай цэрквы, лічачы даны артыкул спрэчным і дапушчаючы магчымасьць дыскусіі.

**Рэд.**

# Маленькі фэльетон.

## Нота беларуса да Лігі Народаў.

Шаноўныя паны Сябры Лігі Народаў, ці, як Вас ад-часу-да-часу называюць, Лігі Нацыяў. Скажэце, ўрэшце, чаго Вы сабраліся і што Вы творыце? Па маіх, маленькага чалавека, зданьнях, Вы павінны рупіцца аб тым, каб усім нацыям-народам насяляючым Эўропу, жылося вольна і добра. Каб кожная нацыя мела магчымасьць разьвівацца і тварыць жыцьцё так, як гэтага вымагаюць кінутыя Вамі-жа лёзунгі – вольнасьць і роўнасьць усіх, незачэпнасьць інтарэсаў і наогул палітычная роўнасьць народаў на аснове самаазначэньня. У гэтых пекных, праўдзівых і, ўрэшце, патрэбных словах злажана ўся тая праўда, якой людзі дабіваліся цэлымі соткамі гадоў і да выкананьня чаго Вы прыстаўлены. Панове, Сябры Лігі Нацыяў, скажэце ці Вы да канца выканалі Вашу працу і ці можаце, як той рымлянін, гукнуць: „я зрабіў усё што мог“. Не, я Вам, мае паны, скажу, — не! Вы сядзіце ў Брусэлі і нічога ня бачыце! Вы ня бачыце як немец душыць паляка, як паляк душыць беларуса, як японец душыць кітайца, ангелец ірляндца і г. д. Вы навет дакладна ня ведаеце, як камуніст—былы царскі жандар, душыць, залушанага бядой, расейца! Вы вучоныя людзі гуманістыя, сядзіцё у кабінэтах, вы замкнуліся ў футляры і далей дакладаў сваіх, часамі нядатных, сэкрэтароў, ня ідзеце. Вы адтрымоўваеце, як тыя „ўраднікі 20-га чысла“, пэнсіі ў золаце і ня рупіцеся добра азнаёміцца з тым, што творыцца навокала Вас! Для Вас, Сябры Лігі Нацыяў, нацыі ня істнуюць! Для Вас хіба істнуюць Ротшыльды, Вандэрліпы, Форды і г. д. Вы хіба змагаецеся за інтарэсы купцоў і банкіраў. Сьлёзы і крывавы пот людзёў Эўропы для Вас—„голас гукаючага ў пустыні“.

Паны, а сярод Вас ёсьць навет соцыялісты. Ці-ж соцыялізм Францыі, Англіі ды Італіі мае нейкую розьніцу ад соцыялізму Беларусі. Ці беларускі рабочы і селянін ня мае такіх-жа духоўных, моральных і фізычных патрэбаў, як вышэй памянёныя народы?!

Шаноўныя паны Лігі Нацыяў, ці хоць адзін раз Вы заікнуліся аб нас? Не. Вы нас ня хочаце ведаць дзеля таго, што нас душылі са усіх бакоў суседзі і мы ня мелі магчымасьці зрабіць пэўнага кулака, якім-бы можна было паківаць Вам, паны, пад носам, як гэта зрабілі людзі жвавыя, ня лічачыяся ні з мораль лю і ні, проста, з людзкімі законамі. Мы не пайшлі дый ня пойдзем шляхам зьдзеку і паняверкі! Мы ня будзем душыць падобных да сябе. Для нас няма ні „эліна ні іудзея“, у нас ёсьць толькі Бацькаўшчына—Беларусь і яе грамадзяне—будзь гэта: жыд, паляк, татарын.

Вы-ж, панове, Сябры Лігі Народаў, запамяталі заветы ня толькі агульна-чалавечыя, але нат‘ і хрысьціянскія. Вы усё робіце так, як гэта Вам дыктуюць моцныя гэтага сьвету. Але памятайце што ёсьць ня толькі законы людзкія, але і моральныя і кожны праступак цягнець за сабою кару.

Як Беларус, трэбую каб урэшце Вы, панове Сябры Лігі Нацыяў, сказалі сваё апошняе слова і каб аб Вас патомкі успаміналі як а дабрадзеях, а ня тыранах з чорным сэрцам і ня меней чорнаю душою.

Пара даць вольна ўздыхнуць народам, а не займацца зьдзекам над імі.

Такім чынам, даючы Вам, панове час на разьвязаньне гэтае справы, трэбую зараз-жа заняцца нашай Беларускай справай, урэшце, скончыць той зьдзек і паняверку, ў якіх мы знаходімся шмат гадоў. Апошняе слова цяпер за Вамі, паны Сябры Лігі Нацыяў.

**Сякера.**

# ПАПЯРОВЫЯ ГРОШЫ.

Папяровыя грошы ў Эўропе былі ўведзены толькі ў 15 сталецьці, пасьля таго, як быў выдуманы друкарскі станок.

Хаця-ж і да таго часу ў Голяндыі хадзілі грошы з бібулы, велічынёю з сярэбраны рубель.

Калі разьвіўся ўнутраны і міжнародны абмен тавараў, дык папяровыя грошы выказалі вялікую выгоду. Даволі падумаць аб тым, як нязручна перавозіць некалькі тысячаў серабром, ці золатам, каб зразумець усю перавагу ў даным выпадку папяровых грашавых значкоў.

Да вайны, калі гаспадарка ўсяго сьвету ня была зруйнована, папяровыя грошы заўсёды можна было выменяць на золата, ня трацячы нічога на разьмене. Бо папяровы знак—ніштo іншае, як вэксаль, які даваўся дзяржаваю і забясьпечваўся тым залатым запасам, які даная дзяржава мела ў сваіх скарбовых складах.

Цяпер нормальны разьмен папяровых грошай на мэталічныя (золата, серабро) можа рабіць хіба толькі адна Амэрыка, дзе, як кажуць, папяровы даляр стаіць вышэй як золаты.

Для дзяржавы выгада папяровых грошай крыецца яшчэ і ў тым, што яны ня так ужо й дарагія па сваёй вырабе. Амэрыканцы аблічылі, што унцыя чыстага золата каштуе каля двацацёх даляраў, а унцыя паперы некалькі цэнтаў (даляр = 100 цэнт.). Залатая монэта, якая паходзіць па руках дзесяць гадоў, ня мае ўжо тае вартасьці, якую мела пры выпуску з монэтнай фабрыкі, а гэтая страта цалком падае на дзяржаўны скарб. Значыць, выпушчаньне папяровых грошай замест золата ў гэткім выпадку дасьць відочную эканомію.

Амэрыканскае бюро для друку папяровых значкоў істнуе з 1862 году. Гэтае бюро зьяўляецца фабрыкаю для вытвару папяровых грошай, урадовых облігацыяў, паштовых і мытных марак і іншых дакумэнтаў.

На вырабу папяровых грошай ідзе асобны гатунак паперы, што выробляецца з вышэйшага гатунку матар‘ялаў. На вырабу гэткай паперы ўрадоваю фабрыкаю ўжываюцца толькі чыстыя палатняныя ганучкі — рэшткі з фабрыкаў, што выпушчаюць тавары з палатна. Прыватным фабрыкам забаронена выпушчаць гэткую самую паперу. Папера гэтая адрозьніваецца ў амэрыканскіх грашах тым, што пасярэдзіне яе праходзіць два рады кручаных шаўковых пасмаў. Гэтыя пасмы адрозьніваюць сапраўдныя папяровыя грошы ад падробленых.

Рысунак папяровых грошай робіцца ў павялічэньні на паперы, пасьля фотографуецца і гравіруецца на стальным пластку, які завецца чэканам. Адзін рысунак робіцца некалькімі асобамі. Адзін чалавек малюе патрэт, другі—орнамэнт, трэці—літары і г. д. Асобнаю машынаю спэцыялістыя-матэматыкі выробляюць рысункі на адваротным баку грашавых значкоў. Звычайна выраба „чэкану“ гэтак ня простая, што патрэбна два месяцы працы на тое, каб яе скончыць. Калі чэкан гатовы, з яго робяць адбіткі на мягкіх стальных роліках, а пасьля на мягкіх стальных пласточках. Пасьля з гэтых пласточкаў на ручных станкох друкуюцца папяровыя грошы. Адзін друкаршчык, пры памоцніку, можа надрукаваць за дзень каля 2.000 папяровых значкоў.

Асобныя мэханічныя нажы абрэзваюць папяровыя грошы, адлічваюцца пачкі ў 100 і ў 4.000 штук.

Гэтак выробляюцца папяровыя грошы ў Амэрыцы.

Штодня друкуецца каля 2½ мільёнаў знакоў, сярэдняй вартасьцю ў 9.000.000 даляраў. Выраба кожнага грашавога значка каштуе ўраду, сярэдня, каля 1⅓ цэнта.

Сярэдняе жыцьце даляровай паперкі —12 месяцаў. Каб прадоўжыць тэрмін іх ужываньня, з 1910 г. былі заведзены асобныя „пральні“ дзеля вымываньня і абнаўленьня папяровых грошай. Гэтае мыцьцё падобна да мыцьця каўнерыкаў. Пасьля мыцьця пацёртыя грошы выглядаюць, як толькі што надрукованыя.

Дзяржаўныя касы ў Амэрыцы мяняюць пацёртыя, падраныя і навет абгарэлыя грашавыя знакі на новыя. Калі ад грашавога знаку засталося менш, як ⅗, дык за яго плоціцца палова цаны, дзеля таго, што хто-нібудзь іншы можа прынесьці ў касу рэшту значка (⅖ яго) і патрэбаваць яе вартасьць.

* * *

Выйдзі ўночы у чыстае поле
І зьлічы ў небе сьвечачкі зор...
Іх ня зьлічыш ніколі, ніколі,
Бо ўсё болей іх знойдзеш а болей,
Асыпаючых з поўнае волі
Неабсяжны нябесны прастор...

Выйдзі ўраньні на бераг лясісты,
Адбіваючых сонца, вазёр
І знайдзі у іх хвалях празрыстых
Хмарак будучых пыл серабрысты,
Ці зямчуг дробных кропель расістых...
Іх—ня знойдзеш у хвалях вазёр.

Выйдзі ўдзень ты у гай нярухомы
І услухаўся ў шэпты галін...
Сум пачуешы ў ім ты знаёмы.
Дык скажы, чаму гай той зялёны
Такі сумны, а лісьцяў мільёны
Плачуць, плачуць усе, як адзін...

Выйдзі ўвечары к ніве насьпелай
І зірні на чырвоны заход
І душой папрабуй ты збалелай
Разгадаць скуль той ветрык нясьмелы,
Ніва, неба, дым хмарачак белы—
Тыя самыя з году у год.

Скуль усё: ўночы смутныя зоры,
Ураньні золата сонцавых кос,
Ўдзень ціхія лясоў разгаворы,
На заходзе—хмар яркае мора,
А ў душы вечна дзіўнае гора,
Горкі смутак нявылітых сьлёз?

Скуль усё, хто стварыў нашу долю
І каму нам маліцца ўсю ноч?
— Дый навошта маліцца?—Бяз волі
Не здабудзецца шчасьце ніколі,
Будзем плакаць, як вецер у полі,
Грудзі рваць будзе сум без патолі
— Й без адказу адойдзеш ты проч...

**Н. Арсеньнева.**

назад, у мінюты самых найсьмялейшых лятуценьняў мы яшчэ падумаць ня сьмелі... Тут ужо, браток, пункт, канец, далей ужо няма чаго казаць. Ужо ўсё сказана...

ВАСІЛЬ (як у ва сьне, як рэха). Бальшавікі Зьезд разагналі...

БАГДЗЕВІЧ. Няхай! няхай! Няхай гоняць, няхай зьдзекуюцца, цяпер нам ужо ня страшны ніякіе штыхі. Тут мы стогнем пад адным окупантам—немцам, там зьдзекуецца над намі іншы окупант—бальшавік, але пасеянае зярнё ужо ўзыходзе... Воля народная, як тая пружына: чымсь крапчэй яе пацісьнеш, тым сільней яна адскоча. Няхай як найболей робяць нам крыўды, зла,—тым вялікшую злосьць пакінуць яны ў нашых сэрцах. Але, браце мой! чымсь болей крыўдаў, тым хутчэй расплюшчацца вочы народу...

Цяпер, браток, справа вось у чым: трэба нам канешне паслаць ганца з пісьмамі ў Менск. Трэба будзе ісьці пехатой, бо іншага спосабу няма. Дзеля гэтай работы патрэбны чалавек энэргічны, лоўкі і ўсей душой аддаўшыся справе, бо апрача перадачы пісьмаў, трэба будзе ім многа растлумачыць словам жывым. Вось гэтакі чалавек—гэта ты! другога няма. І мы рашылі запрапанаваць табе... Ты падумай і заўтра дасі адказ.

ВАСІЛЬ. Ня трэба думаць: я—пайду!

БАГДЗЕВІЧ. Ну, вось і добра... Аб жонцы і аб дзіцяці тваім мы ўжо паклапаціліся: наш камітэт дасьць ёй невялічкую месячную падмогу. Невялічкую, бо самі ведаеце, што грошай цяпер ёсьць надта мала... Блізка фронту, з гэтага боку жыве адзін наш чалавек—сьвядомы беларус. Глаўнае, каб неяк дабрацца да яго, а там ён ужо дапаможа прайсьці праз фронт. Прыходзь да нас сягоньня ўвечары, аб гэтай справе пагаворым шырэй, абмазгуем увесь плян, а пакуль што, бывай здароў. (Падае руку Васілю).

ВАСІЛЬ. Бывайце...

БАГДЗЕВІЧ (выходзячы, да Костуся). Бывайце здаровы, панок! Аб тым, што вы тут чулі, нікому не кажэце нічога лішняга (выходзіць).

КОСТУСЬ. Можаце быць зусім спакойны.

### Зьява 4.

ВАСІЛЬ і КОСТУСЬ.

ВАСІЛЬ (пабачыўшы Костуся, з дзівам). А! ты тут?

КОСТУСЬ. Але. (Падыходзіць да Васіля). Падай мне руку, Васілёк!

ВАСІЛЬ (падае руку, нейкі час глядзяць моўчкі сабе ў вочы, пасьля разам закідаюць адзін аднаму рукі на шыю і цалуюцца). Я, Костусь, у гэтакі мамэнт не магу ні на каго злавацца, асабліва на цябе... У гэтакі мамэнт, калі мне хочацца душу адкрыць, параіцца, пагутарыць аба ўсім... Я з дзіцячых гадоў прывыкшы казаць табе ўсё, як на споведзі. Вось я й цяпер... Але—не! Лепш ня будзем гаварыць аб гэтым: я-ж наперад ведаю, што ты скажаш аб маёй падарожы: скажаш, каб я ня йшоў.

КОСТУСЬ. Наадварот. Я кажу: ідзі!

ВАСІЛЬ (зьдзіўлены). І ты кажаш ісьці?!—вось добра! вось я шчасьлівы... Але толькі, Божа што скажа на гэта Ядзя?.. З ёю будзе цяжкая гутарка...

КОСТУСЬ. Васіль! І я хачу з табой пагаварыць аб аднэй важнай справе: хачу цябе спытацца...

ВАСІЛЬ. Пытайся.

КОСТУСЬ. Ці калі... Што ты думаеш аб сваім будучым жыцьці?.. Не! я кажу ня тое!.. Ці ты ўжо думаеш ліквідаваць сваё віленскае жыцьцё?

ВАСІЛЬ. Як гэта? Я не разумею.

КОСТУСЬ. Ці ты думаеш вярнуцца калі-колечы сюды, назад, у гэты дом, да свае жонкі, да дзіцяці?.. Кажы толькі праўду!

ВАСІЛЬ. Ну, але!..

КОСТУСЬ. Не, ты добра заглянь у сваю душу: ці там у тваёй душы на самым дне няма затоенага хаценьня разам з пачаткам новага жыцьця ў Менску парваць усе ніці, якіе зьвязваюць цябе... з мінулым?..

ВАСІЛЬ (глядзяць адзін аднаму ў вочы). Ты дзіўна ўмееш чытаць у маёй душы. Таіць ня буду: гэтае хаценьне ёсьць, але я ў гэтым не вінаваты, гэта без мае волі, і я ніколі гэтага не зраблю, я так яе не пакіну, я буду прысылаць ёй грошы, апрача таго—ты чуў?—Багдзевіч абяцаўся памагаць, пасьля, як скончыцца вайна, яна прыедзе да мяне ў Менск—і зажывём пановаму.

КОСТУСЬ. А калі-б яна... захацела з табой растацца?

ВАСІЛЬ. Яна? Не, ніколі... Гэта ня здарыцца...

КОСТУСЬ. Ты гэтакі пэўны?

ВАСІЛЬ. Ну але, але!..

КОСТУСЬ. Ну, а калі-б гэтак было, ты-б ня меў да яе ніякай пратэнсіі?

ВАСІЛЬ. Ну, ведама, што не. Я сам першы не пакіну яе з дзіцянём, але калі-б яна захацела са мной растацца—дык вольнаму воля... Нічога не парадзіш...

КОСТУСЬ. Васілёк! скажы праўду: ня любіш ты свае жонкі?

ВАСІЛЬ. Ах, нашто ты гвалтам урываешся ў самую глыб маей душы? Гэта такое пытаньне, на якое я сам сабе ня даў яшчэ адказу, а ты хочаш, каб я адказваў табе.

КОСТУСЬ. Ня бойся глянуць праўдзе ў вочы. Ты-ж рад, што вольнай птушкай паляціш туды, дзе цябе чакае слава, работа, сытасьць?

ВАСІЛЬ. Але... Усё гэтае дасюляшняе жыцьцё, усе гэтые спрэчкі, нязгоды гэтак мяне змучылі, што я рад пажыць цяпер адзін—вольны, сам сабе пан...

(Працяг будзе)

— З Дзьвінску паведамляюць, што выстаўленьне польска-расейскае граніцы скончана. Частка зьмешанае савецкае, польска-расейскае, пагранічнае камісіі, дзеля браку інструкцыяў, выехала ў Маскву.

— Польскі ўрад выслаў да Чычэрына ноту, зьвяртаючы ўвагу на пераход украінскімі савецкімі аддзеламі граніцы, установуленай міравым рыжаскім дагаворам. Апрача гэтага саветы, нязгодна з дагаворам аб міры, вядуць агітацыю сярод пагранічнага насяленьня. Робіца таксама і шмат іншых нарушэньняў дагавору. Польскі Урад выказвае надзею, што Саветы выпаўняць патрабаваньні Польшчы

— Польскі Урад выслаў украінскаму савецкаму камісару Ракоўскаму ноту, падобную да тае, якая ўжо выслана Чычэрыну. Польшча мае ясныя довады таго, што украінскі сав. ўрад мае дачыненьне да працы над пераваротам грамадзянскага ладу Польшчы.

— У Менску ўжо некалькі дзён прабывае прэзэс Галоўнай Чразвычайкі—Дзяржынскі.

— Расейскія й заграничныя корэспондэнты, якія разам з старшынёю ўсерасейскага выканаўчага камітэту аб'яжджаюць абшары, ахопленыя голадам, паведамляюць, што ў Самарскай губэрні насяленьне ўжо некалькі месяцаў корміцца травою. Найгоршае ўражаньне робяць папухшыя дзеці. Для быдла таксама няма пашы.

— Як паведамляе віленская жыдоўска газэта „Unser Tog“, на агульным пасяджэньні Жыдоўскай Нацыянальнай Рады ў Коўне віцэміністар заграничных справаў Ш. Розэнбаум у сваім дакладзе, паміж іншым, сказаў: „што Віленшчына будзе належаць да Літвы гэта ёсьць справай амаль што вырашанай. Пытаньнем толькі зьяўляецца тое, як укладуцца адносіны паміж абедзьвума часткамі Літвы з аднаго боку і паміж Літвою й Польшчаю—з другога“.

— Восьмага верасьня ў Маскве мае адбыцца зьезд расейскіх і лацьвійскіх камуністых.

— З над Волгі цягнуцца на захад дзесяткі тысяч сем'яў. Некалькі дзесяткаў тысяч прыбыло ў Петраград. Ува ўсёй Расеі зьбіраюцца складкі; выслана 4 мільёны пудоў збожжа.

*Чацьвер 1-га верасьня.*

— Гэтымі днямі адбылося над'звычайнае пасяджэньне польскае рады міністраў, на якім пастаноўлена агаласіць зложаны тэкст адозвы ўраду да насяленьня, наказваючай, што ў некаторых выпадках забастовачны рух носіць процідзяржаўны характар і выкліканы ён наплывовымі камуністычнымі элемэнтамі.

— Прадстаўнікі абедзьвюх социялістычных фракцыяў нямецкага парлямэнту затрэбавалі ад ураду незабаўнага карнага сьледства ў справе забойства Эрцбэргэра.

— Нямецкі ўрад замерваецца выслаць з граніцаў дзяржавы гэнэралаў: Людэндорфа, фон-дэр-Гольца і Фэрфэка.

— Паміж 15 верасьня і 15 кастрычніка маюць прыехаць у Польшчу заграничныя пісьменьнікі—ангельцы, італьянцы і скандынавы.

— Забастоўка меставых працаўнікоў г. Варшавы скончылася, сягоньня яны прыступаюць да працы.

— З Варшавы паведамляюць, што саюз тэлефоністых патрэбаваў падвышэньня платы на 60%; управа тэлефонаў згаджаецца толькі на 10%.

— У Расеі шпарка пашыраецца эпідэмія халеры, асабліва сярод галодных.

— З пэўных крыніц паведамляюць што ў ангельскім урадзе ўзяў верх радыкальны кірунак у ірляндзкай справе, які падтрымоўвае міністар Сэсыль. На ірляндзкія воды выплыла некалькі ангельскіх ваенных караблёў.

— Установучы Сойм Югаславіі 20 жніўня, пры ўступленьні на трон караля Аляксандра, аднагалосна пастанавіў афіцыяльна надаць Пётры Карагеоргіевічу тытул Пётры Вялікага.

— Прадстаўнік Савецкае Расеі ў Ліцьве Аралаў паслаў на імя літоўскага міністра заграничн. справаў ноту з падзякаю за падмогу галодным.

— 27 жніўня ў Кісінгэне памёр сябар Літоўскага Установучага Сойму, быўшы сябар III і IV Расейскае Думы, адвакат Н. Фрыдман.

— 18 жніўня прыбыла ў Коўна з Клайпэды дэлегацыя прускіх ліцьвіноў.

— З турэцкіх крыніцаў паведамляюць, што кэмалістыя перайшлі ў контр-наступленьне.

# З ПРЭСЫ.

### Аб трагічным палажэньні беларускіх школаў.

У № 2, які выйшаў у сераду 31 мінулага жніўня газэта «Родная Страха» зьмяшчае артыкул «Беларуская школа і мясцовая ўлада», у якім піша:

„Мы маем пэўныя весьці аб нейкіх дзіўных адносінах да беларускіх школ. Гэтыя адносіны ўжо ўсхвалявалі ўсё беларускае грамадзянства і мы ня можам на іх не адклікнуцца.

Вось палажэньне ў цяперашні час беларускай школы.

У паветах Валожынскім, Вялейскім, Дзісьненскім і іншых, наагул у вусім Наваградзкім ваяводзтве (з другіх беларускіх ваяводзтв рэдакцыя мае адрыўчатыя весьці):

1. Школьныя інспэктары ўсіх беларускіх вучыцялёў, якія ня скончылі вучыцельскай сэмінарыі або 8 кляс гімназіі, звольнілі са службы.

2. Паветавыя школьныя інспэктары (як прыкладам Валожынскі, Лідзкі і інш.) заяўляюць беларускім вучыцялём, што сёлета беларускім школам улада не дазволіць існаваць, а таксама адчыняць новыя ня можна і адначасна прапануюць беларускім вучыцялём пераходзіць у польскія школы.

3. Блізу ўсюды, назначаныя яшчэ ў 1919 годзе, валасныя рады разам з школьнымі інспэктарамі, пад націскам апошніх, выносяць пастановы, каб ня было беларускіх школ, а былі нейкія расейска-польскія. Адначасна з гэтым не дазваляецца вясьці пропаганды за беларускую школу.

4. Каб дабіць беларускія школы, прыдумана гэткая дзіўная рэч. Быццам (гэтак кажуць паветовыя школьныя інспэктары) зьезд школьных інспэктароў у куратара ў Лідзе пастанавіў: усіх вучыцялёў беларускіх школ, якія паканчалі вучыцельскія сэмінарыіі, або 8 кляс гімназіі (іншых ужо няма, бо звольнены) з пачатку школьнага году паслаць на 10 месячныя курсы польскае мовы ў Кракаў і Варшаву. Тых вучыцялёў, якія не згадзіліся ехаць на гэныя курсы, звольнілі.

У школы тых-жа вучыцялёў, якія згадзіліся ехаць на курсы ў Варшаву або Кракаў, назначаюць ужо заступнікаў--польскіх вучыцялёў.

Гэты загад ехаць на курсы ў Кракаў, або Варшаву мае палітычны характар і мэта яго парухаць беларускія школы бо, першае,—каб навучыцца польскай мове ня трэба ехаць у Кракаў і Варшаву, а можна навучыцца на курсах у вадным з мест беларускіх, як гэта было зроблена з польскімі вучыцялямі; другое, на курсы ў Кракаў і Варшаву загадана ехаць з пачатку школьнага году і адначасна беларускіх вучыцялёў адмовіліся прыняць на летнія польскія курсы, што былі ў Вялейцы, Валожыне і інш, трэцяе, — звольніўшы адных беларускіх вучыцялёў і выслаўшы другіх з пачатку новага школьнага году на курсы, беларускія школы астаюцца без ніякіх вучыцялёў ці, іншымі словамі, яны зачыняюцца“.

Намаляваўшы сапраўды сумны абраз палажэньня беларускае школы ў сябе на Бацькаўшчыне, газэта канчае артыкул наіўным запытаньнем:

„Мы зварочваемся да п. Міністра Асьветы Польскага Гаспадарства, ці ведама яму ўсё гэта і што ён думае рабіць?“

# Жыцьцё провінцыі.

## З Наваградчыны.

13 і 14 жніўня г. г. ў Навагрэдку адбылася вечарына пад кіраўніцтвам гр. А. Шумскага. Навагрэдзкая беларуская моладзь згуляла „Паўлінку“ і „Сватаньне“, рэжысавала вядомая тут сваімі мастацкімі здольнасьцямі артыстка А. Кішынская. Ролі выпаўнялі маладыя шчырыя беларусы. В. Лаўскі, Ф. Клаўсуць, Кляеўская, Пагодзіцкая, Каршун, Н. Шышэя і інш. з тутэйшае моладзі.

Спэктакль прайшоў надзіва ўдачна. З сцэны бачыліся праўдзівыя абразы жыцьця роднага народу, дзеці якога—маладыя артысты захапілі глядзельнікаў мастацкім выпаўненьнем жыцьцёвых малюнкаў. А як заскакалі „Лявоніху-Шчароўскую“, сваю, тутэйшую, дык былі выкліканы тры разы на bis.

Пасьля спэктаклю выступіў беларускі хор пад кіраўніцтвам Шумскага. Родная песьня—моцная, магутнаа, як яе народ, хапала за душу будзіла заснулыя думы, выклікала грымотным клічам братоў - беларусоў да працы вялікай, да сьветлых змаганьняў з нядоляй. І збуджаныя, паруханыя ёю паехалі сяляне, (якіх было шмат на спэктаклі) па ўсіх вёсках Навагрэдчыны—расказаць родным хаткам, палём, нівам, сенажацям, з якім замілаваньнем пяе аб іх моладзь.

Дзівіліся прысутныя на спэктаклі прадстаўнікі мясцовае ўлады з гэткага характва нашае вечарыны і дапытваліся, як доўга рыхтаваліся да яе, і якое-ж іх было дзіва, калі даведаліся, што рыхтаваліся адзін тыдзень!

На 4-ае верасьня тыя самыя артысты зноў маняцца наладзіць вечарыну з беларускімі песьнямі, прыказкамі, скокамі для сялян Негневіцкай воласьці.

Як у Навагрэдку, так і ў яго ваколіцах ёсьць шмат сьвядомых беларусоў, шчырых сыноў свае зямлі, але, нажаль, арганізаванае сыстэматычнае работы на карысьць яе не вядзецца. Трэба зьвярнуць увагу на гэтых раскіданых па ўсёй Навагрэдчыне сьвядомых маладых беларусаў, трэба парупіцца аб арганізаваньні іх у моцныя працоўныя гурткі для работы на роднай глебе. Яны нудзяцца па працы, яны маладзенькія жджуць клічу ад тых, хто аддаў многа сілы, хто шмат працаваў на карысьць свайго народу, яны жджуць рады, моральнай падмогі і аддана пойдуць з надзеяю на лепшую будучыну за тым, хто скажа: за мною—па сьветлую долю нашай зямлі! Няхай-жа жыве беларуская моладзь Навагрэдчыны і мацнее ў сьветлых ідэях сваіх.

### М. АЛЬШАНЫ, Ашмянскага пав.

У 1920 г. у Альшанскай воласьці, Ашмянскага павету, беларускім школьным інструктарам было арганізавана 6 пачаткавых школ.

Лічба гэта магла-б быць і большай каб арганізацыя адбылася ў пачатку школьнага году. Дзеля таго-ж, што інструктар прыехаў толькі ў месяцы сьнежні, ў некаторых пунктах, гдзе напэўна маглі-б быць беларускія школы, былі адчынены ўжо польскія.

Але ня будзем ужо гаварыць аб тым, што магло-б быць, скажам толькі аб тым, што ёсьць. Ось, якраз гэтага мы й ня можам сказаць, што нашыя беларускія школы ёсьць.

— Як-то? — папытаецеся вы. — А гдзе-ж яны падзеліся?

А так—былі, былі дый раптам зьніклі. Ну вось, напрыклад, як той Гогалеўскі нос, пасьля каторага асталося толькі гладкае мéсца.

Праўда, што тут мы ня можам правесьці поўнае аналёгіі з гэным фокусным носам, бо пасьля нашых школ не засталося такога пустога пляцу: на іх месцы вырасьлі польскія школы.

Можа каго й зьдзівіць такая мэтаморфоза; але чаго на сьвеце ня бывае! Альшанская воласьць зусім не прэтэндуе на які-небудзь вынятак.

Каб растлумачыць гэтую справу, трэба сказаць некалькі слоў аб тых варунках, пры якіх ствараліся названыя школы. Беларускія школы ў нашай воласьці пачалі сваю працу, пасьля таго, як адбыліся вясковыя сходы, на каторых сяляне выразьліва выявілі свае жаданьні мець школы беларускія. Подпісы іх на пастановах сьведчаць аб гэтым.

Тут трэба было-б ад'значыць яшчэ й тое, што, маючы навет дакумэнтальную згоду сялян, ня так лёгка было гэтым школам зьявіцца на сьвет Божы. Але, як бы там ня было, нашы беларускія школы працавалі ўсю зіму.

І вось нядаўна даведаваемся мы, што воласьць, укладаючы школьную сецьць на новы школьны год, пастанавіла адчыніць толькі польскія школы. Такую пастанову вынесьлі прадстаўнікі жыхароў Альшанскае гміны.

Кажуць: голас народу—голас Божы. Але каб-жа гэта быў голас усяго народу! Усім добра ведама, як адбываюцца выбары ў нашы провінцыяльныя „парлямэнты“. Несьвядомыя масы нашага беларускага сялянства адносяцца наагул пасыўна да социяльна - грамадзянскай працы. Ось, гэта якраз і на руку тым элемэнтам, якія кіруюць палітыкай у нашай провінцыі. А палітыка гэта вельмі простая і ад кіраўнікоў яе не вымагаецца ніякіх асаблівых арганізацыйных здольнасьцяў, ні аратарскіх талентаў.

Калі мы возьмем пад увагу гістарычна зложыўшыйся характар нашага беларуса, то мы пабачым, што ён, гэты самы беларус вельмі далёк ад якой-бы то ні было экспансыўнасьці, ня так-то лёгка яго ўзварушыць. Чым балей вы будзеце расьпінацца перад ім, тым глыбей будзе ён захоўваць ад вас свае думкі і недаверчыва на вас пaглядаць. Найчасьцей-жа вы пачуеце: „Мая хата з краю, я нічога ня знаю. Абыдзецца й без мяне“.

У рэзультаце трэба зусім мала энэргіі і дыплёматыі, каб мець пажаданы склад у якой-небудзь воласьці, напрыклад. Калі-ж створыцца ўжо такі „кабінэт“, то пачынаецца яго „праца“, Нашы беларускія школы зьявіліся ахвярамі аднаго з такіх „кабінэтаў“.

Але,—скажаце вы, — хто-ж вінен ў тым, што беларусы-сяляне такія нядбалыя. Не цягнуць-жа іх за каўнер да грамадзянскай працы! Зусім справядліва. У гэтым нашым нацыянальным горы, пакуль што, ніхто не паможа, апроч нас саміх. Але й ня трэба рабіць перашкод. Дайце нам асьвету, не зачыняйце гвалтоўна нашых школ, дайце жыць і разьвівацца нацыянальнаму духу, і народ вам скажа шчыры „дзякуй“.

**Альшанская.**

### М. Малыя Салечнікі.

Аднаго разу тутака адбыўся „wiec“ (мітынг) устроены прыехаўшымі з Вільні інструктарамі „Стражы Крэсовай“ і Z. L. N. і зрабіўшы вялікае незадаваленьне сярод тутэйшых сялян. Знайшліся такія сьмельчакі, што ня гледзячы на хадзіўшых кругом узброеных стражнікаў і жандароў, голасна крытыкавалі прамовы агітатараў і адказвалі ім, што зямля на якой чуецца беларуская мова, ня ёсьць „rdzenne“ польская і пакуль зямля ў руках паноў, пакуль з сялянамі мала лічыцца, дык словы аб свабодзе і роўнасьці — ёсьць пустыя агітатарскія словы.

Калі адзін з агітатараў „Стр. Крэ-

совай“ гаварыў аб закладзе ў Салечніках народнага дому і дзякаваў памешчыку Мяноўскаму за яго вялікую афяру для таго дому—2 дзесяцін зямлі,—ўсе сяляне сьмеяліся з гэткае „вялікае“ афяры, кажучы, што „лепей каб ён афяраваў зямлі для нашых могілак, а то прыходзіцца хаваць нябожчыкаў па колькі разоў да аднэй і тэй самай магілкі. Мы молімся: „хай у спакоі адпачываюць“, а як-жа яны могуць у спакоі адпачываць, калі мы самі косьці іх варочаем“. На просьбы інструктароў запісавацца сябрамі народнага дому (па 300 м. складкі), запісалася ня больш, як пяць (!) чалавек, хаця сабраных можна было налічыць колькі тысячаў.

---

### ГОРАДЗЕН.

#### Калі-ж канец?

Апошнія здарэньні ў Горадзеншчыне гавораць нам аб тых зьдзеках і гвалтах якія твораць п.п. адміністратары.

Обыскі беларускіх працаўнікоў, а навет і арышты ня спыняюцца.

Беларусы тэрорызованы: ніхто ня пэўны, што паліцыя (па даручэньню Старасты) ня прыдзе з рэвізіяй і ня будзе шукаць абавязкова «przeciwpaństwowej literatury».

Гэты спосаб цяпер практыкуецца ў адносінах да беларусаў: ёсьць факты ці не, падводзяць пад артыкул «здрады».

Заарыштованы Старшыня Грамады Белар. моладзі У. Курбскі абвінавачаны ў здрадзе дзяржаўнасьці.

Фактаў ніякіх, а трымаюць у турме ўжо трэці тыдзень.

Ні конституцыя і ніякія законы не абавязковы для п.п. Горадзенскіх адміністратараў там, дзе пытаньне датычыцца беларусоў. „Зьнішчыць тэ гняздо“—такі лёзунг для п. Старасты і К⁰. Калі-ж канец гэтаму зьдзеку і гвалту?

#### Школьны куратар Наваградзкага ваяводзтва вядзе нягодную агітацыю.

Надойчы, прыехаўшы з Ліды ў м. Валожына, школьны куратар Наваградзкага ваяводзтва заявіў, што ён беларускіх школ не дазволіць сёлета адчыніць. Ніякага падобнага загаду ад польскага ўраду ня было і пан куратар ня мае права рабіць падобных заяў, якія зьяўляюцца нягоднай агітацыяй.

---

## Беларуская хроніка.

#### Ў Беларускай гімназіі.

Асобы, падаўшыя заявы аб прыняцьці ў 1-ю Вілен. Бел. Гімназію павінны ўнесьці гэткую плату за экзамены: ў 1 ўступную клясу—100 мк., ў 1—2 кл. — 200 мк., ў 3—4 кл.—300 мк. і ў 5—8 кл. — 500 мк. Вучні і вучаніцы падаўшыя заявы аб прыняцьці ў старшыя клясы (5—8) павінны вытрымаць экзамены па беларускай мове, гісторыі і геаграфіі Беларусі. Хто ня мае патрэбных дакумэнтаў павінен экзаменавацца па ўсіх прадметах.

Экзамены пачнуцца сягоньня.

Пачатак школьнага году 15 верасьня.

#### З пасяджэньня Пэдагогічнае Рады.

Ў сераду 31 жніўня адбылося пасяджэньне Пэдагогічнае Рады Беларускай Гімназіі. Дырэктарам перавыбраны грам. М. Кахановіч. Сэкрэтаром кс. А. Станкевіч. Гімназія перафармоўваецца ў тып гуманістычны. Для нятўтэйшых вучняў пры Гімназіі будзе закладзены інтэрнат.

---

#### Выезд грам. Ф. Аляхновіча.

Рэдактар «Беларускага Звону» грам. Ф. Аляхновіч выехаў учора на некалькі дзён у Варшаву.

#### Проці беларускае школы.

„Родная Страха“ зьмясьціла на сваіх шпальтах сьпісак 24-х вучыцялёў беларускіх школ Валожынскага павету, заяўляючы, што з 1-га ліпня сёлетняга году школьныя інспэктары Вялейскага, Валожынскага і іншых паветаў Наваградзкага ваяводзтва звольнілі некалькі сот беларускіх вучыцялёў, сьпісак якіх ня можа быць газэтаю зьмешчаны дзеля недастачы месца. Ў сьпіску 24-х значацца гэткія, звольненьня вучыцялі: 1) Кароль Сымон, 2) Белановіч Тамаш, 3) Шчуцкі Сьцяпан, 4) Будневіч Якім, 5) Маеўскі Канстантын, 6) Лоўчы Ігнат, 7) Лоўчы Янка, 8) Рубацкі Антон, 9) Іода Валентына, 10) Кавалеўская Вера, 11) Цяжолы Павал, 12) Маёўская Марыя, 13) Федаровіч Янка, 14) Карнаух Алена, 15) Станкевічанка Волька, 16) Янчуковічанка Зофія, 17) Філіповіч Канстантын, 18) Шпакова Волька, 19) Шпакова Ганна, 20) Шпак Сьпірыдон, 21) Янчуковіч Мікалай, 22) Андрушкевіч Хведар, 23) Казакевіч Янка, 24) Пётра Рэут.

---

## Аб нацыянальна-палітычнай нарадзе.

Рада Беларускай Нацыянальнай Сувязі зьвярнулася да беларускіх арганізацыяў з гэткім абвешчаньнем:

**Да ведама беларускага грамадзянства, ўсіх беларускіх партыяў, арганізацыяў і груп.**

Надыйшоў момэнт, калі прадстаўніком беларускай нацыянальнай думкі трэба аб'яднаць свае зусільля ў напрамку забясьпечаньня бліжэйшай будучыны Бацькаўшчыны.

Трэба развыжыць пытаньне першараднай палітычнай вагі, даць згодны адказ на пытаньне часу. У першую чаргу трэба высьвятліць унутраннае і міжнароднае становішча Беларусі.

Прыймаючы гэта пад увагу, Рада Беларускай Нацыянальнай Сувязі ўзяла на сябе ініцыятыву скліканьня **Беларускай Нацыянальна-Палітычнай Нарады.**

Дзень скліканьня Нарады — 25 верасьня (сенцября) гэтага году.

Месца скліканьня Нарады — Прага (Чэха-Славакія).

Усе беларускія партыі, арганізацыі і групы, знайходзячыяся як у краі, так і па-за межамі яго — ў Эўропе і Амэрыцы, заклікаюцца прыслаць на памянёную Нараду сваіх прадстаўнікоў.

Тым арганізацыям, якія ня маюць адпаведных коштаў, выдаткі па падарожы іх дэлегатаў будуць вернуты прэзыдыумам Нарады.

---

#### Беларускія школьныя падручнікі.

Сёлета прыбудзе некалькі паважных падручнікаў школьных, як альгебра, гісторыя і інш.

#### Таварыства Беларускай Школы.

Аканчальная арганізацыя рады і ўраду таварыства адбудзецца на чародным сходзе 4-га верасьня ў салі Беларускай Гімназіі у 5 гадз. веч. Усе беларусы на гэты сход павінны сабрацца і ўпісацца у Таварыства.

#### Бел. коопэратыў „Райніца“.

24 жніўня пераарганізаўваўся бел. коопэратыў «Райніца». Выбраны новы ўрад, які, спадзеімся, павядзе гэтую важную справу з грамадзкаю сьведамасьцю.

#### Пасяджэньне Бел. Нац. К-ту.

У панядзелак 29 жніуня, пасьля доўгае пярэрвы, адбылося пасяджэньне Беларускага Нацыянальнага Камітэту. Разгледжана было шмат важных пытаньняў, паміж імі сучаснае палітычнае становішча Віленшчыны, беларуская нацыянальна-палітычная нарада ў Празе-Чэскай і інш.

---

## Беларускі тэатр.

Ў нядзелю, 28 мінулага жніўня, Беларускі Музыкальна-Драматычны Гурток паставіў тры аднаактоўкі: „Гаварун“, „Дарота“ і „Зьбянтэжаны Саўкна“.

Першыя дзьве п'ескі перакладныя, а апошняя — арыгільны твор маладога беларускага пісьменьніка Л. Родзевіча. Сюжэтам п'ескі служыць простанародная сварка мужа з жонкаю з-за таго, чыя работа цяжэйшая і важнейшая: мужчынская, ці жаноцная? Ў няхітры сюжэт гэты аўтор улажыў гэткі вялікі запас народнага гумару, што не дарма заслужыў доўгае выкліканьне публікі пасьля прадстаўленьня.

У ролі Саўкі паказаў праўдзівую ігру новы на беларускай сцэне, але не малады ўжо, як артыст, п. Горскі, які надзіва лёгка спраўляецца з труднасьцямі мовы. Дзеля ігры Горскага крыху слабою была панна Русецкая ў ролі Магрэты (жонка Саўкі).

З трох кароценькіх камэдыяў „Зьбянтэжаны Саўка“ зрабіў наймацнейшае ўражаньне на публіку.

---

#### Беларускія ігрышча.

Заўтра, 3-га верасьня, Беларускі Музыкальна-Драматычны Гурток ладзіць у сваім памяшканьні (Біскупская 12) вечарыну, на якой пастаўлены будуць тры аднаактовыя камэдыі: „На адным крэсьле“, „Гаротніца“ і „Пасланец“.

---

## ТУТЭЙШАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

### Інтэлігэнцыя і паны.

Усяму грамадзянству гораду вядома, што ў горадзе істнуе сталовая, адчыненая Амэрыканскай Місіяй, спэцыяльна для інтэлігэнцыі, г. з. асоб, якія займаюцца умысловаю працаю, трэба думаць, бяз розьніцы нацыянальнасьці. Так сама ўсім вядома, што дзякуючы сусьветнай вайне, клясавай барацьбе і нацыянальнай нераўнавазе, шмат інтэлігэнцыі засталося бяз усякіх срэдстваў да жыцьця і тая частка, якой удалося знайсьці тую ці іншую працу, церпіць матарыяльны недахват. Дзеля гэтага між абедаючымі, здавалася-б, павінна быць паразуменьне ды узаемнае паважаньне, ўдзячнасьць тым, хто дапамагае і асаблівыя клопаты адміністрацыі сталовай.

Трэба ад'значыць, што сталовая арганізавана на дэмократычных падставах: абедаючыя самі сябе абслугоўваюць.

Але ў самай справе часта бываюць сумныя выпадкі, якія цяжка адбіваюцца на моральным пачуцьці абедаючых. Сярод абедаючай інтэлігэнцыі сустракаюцца асобы з вельмі неінтэлігэнтнымі паступкамі, або з польска-эндэцкімі вымаганьнямі.

Як відаць, гэтыя паны лічаць за інтэлігентаў толькі тых, хто хораша адзеты і гавора папольску; з імі гэтыя паны і лічацца, а рэшту нат' можна і зьневажаць. Між іншым у правілах, рэгулюючых жыцьцё сталовай, якія вывешаны там-жа, нічога не гаворыцца аб тым, як трэба адзявацца і ў якой мове трэба гаманіць.

Вышэй ад'значанае пацьвярждаецца фактамі. Курсантка бел. настаўніцкіх курсаў Ш. прыносіць да стала на падносе абед і пабеларуску зьвяртаецца да аднэй асобы з просьбаю крыху адсунуцца, каб ёй можна было сесьці. Гэты пан ня толькі не адсунуўся, што ён павінен быў зрабіць з простае ветласьці, не чакаючы просьбы, але зьдзіўлены і нездаволены, што да яго зьвяртаюцца не папольску, назваў мову беларускую хамскаю, мужыцкаю і заўважыў, што трэба гаварыць папольску. Гэтым курсантка ня зьдзівілася, бо ведае цану падобных паступкаў, і другія сталаўнікі заступіліся за яе.

Служачая сталовай п. **N.** неаднакроць заўважавала тым жанчынам, якія прыходзяць не ў капялюшох, што яна «павыкідае іх за вакно».

Прыведзеныя факты добра гавораць аб тыповых зьявішчах пэўнага грамадзянства.

Няхай ім будзе вядома, што кожны чалавек—інтэлігэнт мае права карыстацца сваей роднай мовай, бо яна для яго лепшая за другія мовы нат' за «пекную польскую», як родная, што ніхто ня мае права забараняць у карыстаньні ёю ў грамадзянскіх сталовых. Што датычна да абазваньня беларускае мовы хамскаю, мужычаю, то гэта добра сьведчыць аб бязглуздасьці абазваўшага, які несправядліва носіць імя інтэлігэнта, бо праўдзівы інтэлігэнт заўсёды будзе і павінен шанаваць мову усякага народу, што танная сталовая Амэрыканскай місіі, а ня «польскай», адчынена не для «паноў» палякоў, якія ня хочуць прызнаваць правоў іншых моваў, а для праўдзівых інтэлігэнтаў, якія павінны шанаваць мову ўсякага народу.

Што датычна п. N., то яна відаць інтэлігэнтнасьць разьлічае па капялюшох, і не разумее, або ня хоча ведаць, што Амэрыканская місія дапамагае беднай інтэлігэнцыі ня толькі таннымі абедамі, але і вопраткамі, якія выдаюцца там-жа у сталовай. Сваею-ж нетактоўнасьцю яна ставіць у вельмі прыкрае палажэньне абедаючых і перашкаджае місіі дапамагчы беднай інтэлігэнцыі.

(«Kryпіса»).

#### Адстаўка прэзыдэнта места.

Тутэйшыя польскія газэты паведамляюць, што прэзыдэнт места Вільні п. Банькоўскі падаецца ў адстаўку.

#### Аднаўленьне „Głosu Litwy“.

Ў сераду 31 жніўня, пасьля некаторае пярэрвы (справа была ў судзе) выйшаў ізноў чародны 58-мы нумар газэты „Głos Litwy“.

#### ЗЬМЕНА АДРЭСУ.

**Рэдакцыя „БЕЛАРУСКАГА ЗВОНУ“ з 2-га гэтага верасьня перанесена на Біскупскую вул. № 12.**

---

## Віленская біржа.

За 31 жніўня 1921 г.

| | |
|---|---|
| Царскія 500 р. (за 100 р.) . . | 200 п. м. |
| „ 100 р. . . . . . . . . | 425 „ |
| „ дробныя . . . . . . . | 250 „ |
| Думскія 1000 р. . . . . . . | 50 „ |
| „ 250 р. . . . . . . . | 25 „ |
| Керэнкі . . . . . . . . . | 15 „ |
| Даляры . . . . . . . . . . | 2775 „ |
| Франкі . . . . . . . . . . | 205 „ |
| Фунты штэрлінгаў . . . . . | 10250 „ |
| Ост.-маркі (1000) . . . . . . | 31.50 „ |
| Нямецк. маркі (1000) . . . . | 32.50 „ |
| 10 руб. золатам . . . . . . . | 12350 „ |
| 1 „ серабр. . . . . . . . | 600 „ |
| 1 „ дробнымі . . . . . . | 300 „ |



---

Грамадзяне, спаўняйце сваю павіннасьць, запісуйцеся ў „Т-ва Беларускае школы“!

Друкарня „Віленскага Выдавецтва“ Б. А. Клецкіна, Сьцяпанаўская, 23. Рэдактар-Выдавец ФРАНЦІШК АЛЯХНОВІЧ.